МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Субота, 1 кастрычніка 1994 года | №104 (10804) | Цана 30 руб.

■ Парламент: дзень за днём

# ЛЮБЫ ЗАКОН – ВАЖНЫ

Можна, вядома, іранізаваць, пасмейвацца, але факт, як гаворыцца, застаецца фактам. А сутнасць у тым, што першы з законаў, які быў прыняты на гэтай сесіі Вярхоўнага Савета, называецца так: "Аб племяннной справе ў жывёлагадоўлі".

Закон гэты аказаўся "скарастрэльным". На яго абмеркаванне і прыняцце парламентарыі патрацілі вельмі мала часу, паколькі, на агульную думку, дакумент гэты быў добра падрыхтаваны. Новы Закон вызначае прававыя і эканамічныя асновы ажыццяўлення племяннной справы ў жывёлагадоўлі, адносіны дзяржавы і ўладальнікаў племяннной жывёлы і прадукцыі.

А вось спроба прыняць "з ходу" Закон аб дзяржаўных сакрэтах не ўдалася. Справа скончылася тым, што Юрый Папоў, які прадстаўляў гэты дакумент ад імя парламенцкай камісіі, сам прапанаваў зняць праект з далейшага абмеркавання. Ён мае патрэбу ў сур"ёзнай дапрацоўцы. Як сказаў адзін дэпутат, "прымеш такі закон, а потым цябе ж пяць гадоў нават у Польшчу не пусцяць".

Ранішняе пасяджэнне ў чацвер пачалося з выступлення Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

У сваім дакладзе Прэзідэнт ахарактарызаваў палітычную і эканамічную сітуацыю ў краіне, расказаў аб сваім баченні шляхоў выхаду рэспублікі з эканамічнага крызісу. Рашэнню гэтай задачы і была прысвечана вынесеная на абмеркаванне парламента праграма неадкладных мер. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што пры падрыхтоўцы праграмы быў вызначаны асноўны кірунак рэфармавання эканомікі — сацыяльна арыентаваны рынак. Галоўны крытэрый — не дапусціць далейшага рэзкага зніжэння ўзроўню жыцця народа. На думку Прэзідэнта, калі гэтая праграма будзе рэалізавана, то спыніцца зніжэнне курса беларускага рубля, будзе прыпынены абвальны спад вытворчасці.

Перад дэпутацкім корпусам з дакладам выступіў прэм"ер-міністр Міхаіл Чыгір. Ён азнаёміў дэпутатаў з мерамі, якія прапануюцца вышэйшай выканаўчай уладай з мэтай супрацьдзеяння інфляцыі і стымулявання вытворчай актыўнасці на аснове аздараўлення фінансавай сістэмы, грашова-крэдытных адносін і рэфармавання цэнаўтварэння, стабілізацыі курса беларускага рубля, пераадолення спаду вытворчасці на аснове рыначных пераўтварэнняў.

Затым Аляксандр Лукашэнка адказаў на пытанні дэпутатаў.

Ён зноў пацвердзіў, што не мае намеру "падстаўляць" распрацоўшчыкаў праграмы, а бярэ на сябе адказнасць за яе выкананне нароўні з імі. Ён таксама адзначыў, што ад дэпутатаў хацеў бы пачуць толькі канструктыўныя прапановы, паколькі нават у выпадку, калі Вярхоўны Савет яе не адобрыць, а падвергне рэзкай крытыцы, праграма ўсё роўна будзе рэалізоўвацца, бо змяшчае вырашэнне трох асноўных пытанняў, якія ставіліся кандыдатам у Прэзідэнты Аляксандрам Лукашэнкам у час перадвыбарнай кампаніі і адобраны пераважнай большасцю выбаршчыкаў. Маюцца на ўвазе барацьба з інфляцыяй, карупцыяй і наладжванне цесных эканамічных сувязей з краінамі былога Саюза, і ў першую чаргу — з Расіяй.

Пытанні народных дэпутатаў, адрасаваныя Прэзідэнту, датычыліся ў асноўным канцэптуальных падыходаў да вынесенай на абмеркаванне праграмы, чаго нельга сказаць аб праблемах, прапанаваных для тлумачэння кіраўніку Кабінета Міністраў Міхаілу Чыгіру. Яму прыйшлося "трымаць адказ" за ўсю эканоміку. Беларускі прэм"ер паведаміў, што цяпер вядуцца перагаворы з мэтай прадоўжвання тэрміну адмены мытных пошлін з Расіяй, які заканчваецца 1 кастрычніка. Пры гэтым Міхаіл Чыгір адзначыў, што няма асаблівых сумненняў у тым, што гэтыя перагаворы завершацца паспяхова.

Закранаючы пытанне аб клірынгавых пастаўках, Міхаіл Чыгір паведаміў, што ранейшы ўрад, каб крыху знізіць цэны на нафту, якую пастаўляе Расія, дамовіўся з Раскантрактам, што яны будуць на столькі ж ніжэйшыя, на колькі ніжэйшыя за сусветныя цэны на прадукцыю, пастаўляемую з нашай рэспублікі. У выніку мы і з таго, і з другога боку маем 20-працэнтную скідку. Але асобныя прадпрыемствы, якія пастаўляюць прадукцыю па клірынгу, не атрымалі той прыбытак, які яны мелі б пры прамых пастаўках. Ведаючы гэтую праблему, Кабінет Міністраў з удзелам Раскантракта ўжо намеціў яе больш дэталёвае вывучэнне.

*БЕЛІНФАРМ.*

# НОВАЯ "СЛУЖБА" ГРУЗАВІКОЎ

— У аб'яднаным вучэбным цэнтры Печы ва ўрачыстай абстаноўцы прадстаўнікам гаспадарак Мінскай і Віцебскай абласцей былі перададзены 34 аўтамашыны ЗІЛ-130, ЗІЛ-131, ЗІЛ-157 і ГАЗ-66. З гэтай нагоды ў вучэбны цэнтр завітаў міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік А.І.Кастэнка.

— Наша армія знаходзіцца цяпер у стадыі рэфармавання, — зазначыў Анатоль Іванавіч, выступаючы на мітынгу перад воінамі і прадстаўнікамі гаспадарак. — Скарачаюцца Узброеныя Сілы рэспублікі, вызваляецца тэхніка. Таму і прынята рашэнне аб бясплатнай перадачы больш чым паўтысячы аўтамабіляў калгасам і саўгасам. Сёння тэхніка вяртаецца да тых, на чые сродкі і чымі рукамі была зроблена. І хаця аўтамашыны аднесены намі да чацвёртай-пятай катэгорыі, тым не менш яны знаходзяцца ў добрым тэхнічным стане, таму нам не сорамна перадаваць іх вяскоўцам. Сам факт бясплатнай перадачы тэхнікі народнай гаспадарцы сведчыць аб тым, што сувязі арміі з народам пашыраюцца і ўмацоўваюцца...

За гэтую дабрачынную акцыю шчыра і сардэчна дзякаваў кіраўніцтву Міністэрства абароны намеснік міністра сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь М.К.Ермакоў. Ён запэўніў прысутных, што ўсе перадаваемыя армейцамі аўтамашыны атрымліваюць тыя гаспадаркі, якія ў іх маюць найбольшую патрэбу.

На пляцы ваеннага гарадка каля перадаваемай тэхнікі я сустрэў старшыню калгаса "Чырвоны наваселец" У.М.Янчанку і дырэктара саўгаса "Гвардыя" Барысаўскага раёна В.А.Седзіна. Яны таксама ад усёй душы дзякавалі вайскоўцам за такі цудоўны падарунак і са шкадаваннем паведамілі, што з-за адсутнасці фінансавых сродкаў і неймавернага падаражання тэхнікі гаспадаркі вось ужо некалькі год не могуць купіць нічога новага, таму вайсковыя аўтамабілі будуць для іх добрай падмогай.

Сярод іншых гаспадарак уладальнікамі вайсковых аўтамабіляў у той дзень сталі калгасы імя Арджанікідзе і "Звязда" Смалявіцкага, саўгас-аграфірма "Стара-Барысаў" Барысаўскага раёнаў. Усяго ж гаспадаркам сталічнай вобласці, як паведаміў намеснік старшыні аблсельгасхарча па механізацыі і электрыфікацыі Б.В.Круталевіч, перадаецца 105 аўтамашын. Пры гэтым Барыс Васільевіч зазначыў, што было б нядрэнна, калі б і перасоўачныя рамонтныя майстэрні, і паходныя кухні, і іншую тэхніку і сродкі, якія адслужылі ў арміі вызначаныя нарматыўныя тэрміны, перадавалі сельскай гаспадарцы, а не пускалі на злом.

...Пасля афармлення неабходных дакументаў ваенныя вадзіцелі перадаюць аўтамашыны сваім калегам з калгасаў і саўгасаў. І вось заводзяцца рухавікі, і былыя армейскія аўтамашыны адна за адной назаўсёды пакідаюць тэрыторыю ваеннага гарадка. Адслужыўшы арміі, яны яшчэ паслужаць народнай гаспадарцы.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

# ПЯШЭЧКАМ. ЦІ СТАЦЬ "ЗАЙЦАМ"?

**Кожны дзень падкідвае сюрпрызы, якія ўсё больш спустошаюць наш кашалёк і прымушаюць тужэй зацягваць паясы. Спробы ўлад стабілізаваць сітуацыю ў рэспубліцы пакуль не прыносяць станоўчых вынікаў. Па-ранейшаму падае вытворчасць, зніжаецца сацыяльна-эканамічны ўзровень жыцця працоўных. Мінімальная зарплата не кампенсуе і дзесятай часткі неабходнага спажывецкага бюджэту. Ён жа на сёпняшні дзень складае па рэспубліцы 101 тысячу рублёў, а па Мінску — 133 тысячы.**

У такіх умовах, згадзіцеся, пражыць вельмі цяжка. Невыпадкова многія абмяжоўваюць сябе ў пакупцы нават неабходных рэчаў і прадуктаў харчавання. А вось цяпер мінчан "узрадавалі" чарговай навіной — з кастрычніка плату за праезд на грамадскім транспарце меркавалася павялічыць у пяць разоў — 200 рублёў за адну паездку. Месячны праязны білет на адзін від транспарту тады каштаваў бы 14 тысяч рублёў, на два — 18, на тры — 22 і на ўсе віды — 24 тысячы. І калі ў недалёкім мінулым кошт праезду раўняўся дзесятым долям працэнта ад мінімальнай зарплаты, то зараз узрасце да 2,4 мінімальнай выплаты. Паездка для многіх стане недасягальнай. Перад імі ўзнікне праблема: на сваіх двух, пяшэчкам дабірацца па горадзе "з пункта А у пункт Б" ці станівіцца "зайцам".

— Савет аб'яднання галіновых прафсаюзаў вобласці, — гаворыць яго старшыня М.І.Хаванскі, — выказвае вялікую трывогу і заклапочанасць наконт пагаршэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва. А тут яшчэ рэзкае павышэнне тарыфаў на праезд. На выканкоме савета ад імя сваіх членаў — а іх не адна сотня тысяч чалавек — мы прынялі рашучы пратэст у адрас Мінскага гарвыканкома, які свой крок апраўдвае стратнасцю грамадскага транспарту. Перш чым павышаць цану, спачатку патрэбна прыняць меры сацыяльнай аховы — павялічыць размер мінімальнай зарплаты (а прафсаюзы патрабуюць давесці яе да 25 тысяч рублёў) ці выплачваць людзям кампенсацыю, раўназначную ўзрастаючым тарыфам. Такая наша пазіцыя.

У чацвер Мінгарвыканком сярод іншых абмяркоўваў і гэтае пытанне. Прынята рашэнне кошт праезду павялічыць да 100 рублёў.

Дарэчы, месячныя праязныя білеты на кастрычнік прадаваліся па старой цане. Той, хто набыў іх, нічога даплачваць не будзе.

# СА СВЯТАМ, ПЕДАГОГІ!

Паважаныя настаўнікі, выкладчыкі, выхавальнікі, работнікі навучальных і выхаваўчых устаноў!

Кожны год педагагічны калектыў вобласці адзначае прафесійнае свята — Дзень настаўніка. Свята, якое мае дачыненне да кожнага чалавека, кожнай сям"і.

Грамадству патрэбны людзі развітыя, дзейныя, здольныя разумець прагрэсіўную тэхналогію і кіраваць сучаснай тэхнікай, раскаваныя, свабодныя ў праяўленні сваіх духоўных і фізічных здольнасцей. Патрэбна асоба.

Настаўніку неабходна раскрыць гэтую асобу, знайсці падыход да кожнага.

І трэба адзначыць, што сёння, на пераломным этапе нашага жыцця — станаўлення Беларусі як незалежнай дзяржавы, гэтая задача патрабуе ад кожнага педагога многа намаганняў і сіл.

Без думаючага, творча працуючага настаўніка не існуе сапраўднай школы. Таму напярэдадні Дня настаўніка мне хочацца звярнуцца да тых, хто не толькі дае бліскучыя па зместу ўрокі, але і напаўняе іх цяплом і дабрынёй, хто не на словах, а на справе паказвае прыклад, хто не толькі вядзе, але і сам ідзе са сваімі вучнямі, узвышаючы іх і сябе да лепшых чалавечых узораў, хто заўсёды бачыць у маласлетнім чалавеку Чалавека.

Такіх педагогаў у вобласці шмат. На іх вопыце вучацца іншыя, іх ідэі і адкрыцці патрэбны маладым. І мне сёння вельмі прыемна назваць нашыя лепшыя педагагічныя калектывы, а таксама настаўнікаў і выхавальнікаў. Гэта Г.У.Мельгуй — настаўніца беларускай мовы і літаратуры Мардасаўскай базавай школы Вілейскага раёна, Г.М.Корзун — настаўніца хіміі сярэдняй школы №9 г.Салігорска, М.К.Бакан — настаўніца фізічнага выхавання Сароцкай сярэдняй школы Любанскага раёна, Г.М.Кіберава — настаўніца геаграфіі СШ №2 г.Смалявічы, В.Я.Паўдовіч — настаўніца матэматыкі СШ №2 імя Ф.Колесавай г.Крупкі, З.У.Паліенка — настаўніца замежнай мовы Свіслацкай школы Пухавіцкага раёна, Г.У.Назарава — майстар вытворчага навучання Барысаўскага ПТВ №62 будаўнікоў, З.К.Праташчык — выхавальніца дзіцячага сада №5 г.Старыя Дарогі, М.А.Драбатовіч — загадчыца аддзела адукацыі Клецкага райвыканкома, У.Я.Казючыць — дырэктар Суткаўскай сярэдняй школы Уздзенскага раёна, Т.І.Булко — намеснік дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце Канюхоўскай базавай школы Капыльскага раёна, Я.К.Доўгаль — дырэктар Смалявіцкага ПТВ №204, Я.І.Мазуркевіч — арганізатар аддзела адукацыі Стаўбцоўскага райвыканкома і многія іншыя.

Створаны свае сістэмы выхавання ў Міханавіцкай СШ Мінскага, Дакудаўскай СШ Крупскага, Морацкай СШ Клецкага, Турэц-Баярскай СШ Маладзечанскага раёнаў, барысаўскай гімназіі №2, Стаўбцоўскай агульнаадукацыйнай школе-інтэрнаце.

Дазвольце сардэчна павіншаваць вас са святам настаўніка. Пажадаць далейшых творчых поспехаў у працы, нязгаснага аптымізму, плённага пошуку, добрых, таленавітых выхаванцаў, здароўя і сямейнага дабрабыту.

*Аляксандр НОВІК,*
*начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкома.*

# НІ КРОКУ. БЕЗ ЗГОДЫ ДЭПУТАТАЎ

**Тэма прэс-канферэнцыі была сфармулявана так: "Вопыт мясцовага самакіравання ў Польшчы вачыма дэпутатаў". На сустрэчу з журналістамі прыйшлі Міхаіл Адамавіч Казючыц, Аляксандр Фёдаравіч Спіглазаў, Віктар Фёдаравіч Какоўка і Валерый Іванавіч Зяленін. Усе яны — штатныя работнікі пастаянных камісій Вярхоўнага Савета і толькі што вярнуліся з суседняй краіны, якую наведалі дзякуючы фонду Сапегі.**

Агульнае іх уражанне — першы этап рэформы мясцовай улады там прайшоў паспяхова. Створана 2,5 тысячы гмін, якім далі ўладу і грошы /самі фарміруюць бюджэт/ і якія вяршаць усе справы на сваёй тэрыторыі. Ніхто, нават прэзідэнт, не можа ўказаць ім, што і як рабіць. А Зяленін дадаў, што такая форма самакіравання, як у Польшчы, — наша недалёкая будучыня, прататып нашай дзяржаўнасці.

— А як вы ставіцеся да праекта рэформы мясцовага самакіравання, прапанаванага Прэзідэнтам? Супадае ён з вашымі меркаваннямі ці будзеце выступаць супраць? — спытаў у дэпутатаў.

— Нічога канкрэтнага сказаць не можам, паколькі ніякіх дакументаў мы яшчэ не атрымалі, — пачуў у адказ. — Згодна з нашым рэгламентам, яны паступаюць у камісіі не пазней чым за дзесяць дзён да разгляду на сесіі.

Магчыма, так і трэба. Аднак уважлівы аналіз кожнага артыкула закона, кожнага яго радка — гэта не чытанне "лёгкай" літаратуры. Патрэбен час. І яшчэ — свежая галава. А дэпутаты ж кожны дзень прысутнічаюць на пасяджэннях сесіі. Скажыце, пасля такой напружанай разумовай работы хіба ж да вывучэння вечарамі новага дакумента? Тут бы адпачыць, расслабіцца. Ці не гэтая наша звычка ўсе неабходныя паперы прадстаўляць упрытык да іх разгляду і "выпякае" недасканалыя законы?

У той жа Закон аб мясцовым самакіраванні ўжо двойчы ўносіліся дапаўненні і змяненні, зараз гэта будуць рабіць яшчэ раз.

Між іншым, як заўважыў Спіглазаў, у сваёй паштовай скрынцы ён знайшоў зварот Прэзідэнта з просьбай падтрымаць яго на сесіі наконт рэфармавання мясцовай улады. Пэўна, дадаў ён, такія пасланні атрымалі і іншыя дэпутаты.

Журналісты імкнуліся высветліць і такую сітуацыю. Дапусцім, рэформы Прэзідэнта не пройдуць на сесіі. Але ж ён абяцаў увесці пасады сваіх прадстаўнікоў на месцах. Выходзіць, тады Саветам ісці ў адстаўку?

— Успомніце, што казаў Прэзідэнт раней, — зазначыў Какоўка. — Напомню вам: усе свае дзеянні падпарадкоўваць закону і Канстытуцыі. А ні тым, ні другім падобная структура дзяржаўнай улады не прадугледжана. Уводзіць яе — значыць свядома ісці на іх парушэнне. Няхай спачатку Вярхоўны Савет прыме адпаведнае рашэнне, і толькі тады можна весці гаворку аб прадстаўніках Прэзідэнта на месцах.

Народны выбраннік даў зразумець, што ніякай самадзейнасці ў дзяржаўным кіраванні, без апоры на закон і Канстытуцыю, дапускаць нельга. Бо нічога, акрамя сацыяльна-палітычнай нестабільнасці ў грамадстве, гэта не прынясе.

На завяршэнне прэс-канферэнцыі нас папрасілі не звязваць яе з правядзеннем чарговай сесіі Вярхоўнага Савета. Проста група дэпутатаў захацела падзяліцца сваімі ўражаннямі аб убачаным і пачутым. Усё гэта яшчэ трэба асэнсаваць, абдумаць. А потым ужо, магчыма, выкарыстаць тое-сёе пры распрацоўцы і абмеркаванні адпаведных заканадаўчых актаў.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

**Криминал**

# УБИЛИ ЗА ПОМИДОРЫ

На овощном поле колхоза "Положевичи" Стародорожского района нашли труп женщины. Как оказалось, агронома-овощевода этого хозяйства Валентины Ивановны Михновец. Мать троих детей считали хорошим специалистом. И человек она была неплохой. Кто лишил ее жизни? Криминальную цепочку раскрутили работники милиции совместно с прокуратурой. В этот вечер женщина отправилась на колхозное поле. Там и застала двух наглецов, воровавших колхозные помидоры. Однако деревня – не город, тут все один одного знают. И агроном узнала в грабителях жителей деревни Буденичи, ранее судимых. Пригрозила вывести их на чистую воду. В ответ получила несколько ударов ножом. Они оказались смертельными.

*Виктор БЫКОВ.*

■ Сёння – Дзень пажылых людзей

# ПЕЧКА НЕ РАЗБУРЫЦЦА, АГАРОДЖА НЕ ЎПАДЗЕ

Адзінокія, стомленыя, збянтэжаныя... На вялікі жаль, менавіта такімі прыходзяць да старасці ў нашы дні многія людзі. А яшчэ — амаль жабракамі: сацыяльны нонсенс.

І таму добра, што два гады назад Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь сваім Указам абвясціў 1 кастрычніка Днём пажылых людзей. "Днём шанавання",— заўважыла неяк загадчыца Бярэзінскага раённага аддзела сацыяльнага забеспячэння Н. Бурко. Можна дадаць, што гэта — і магчымасць падвесці нейкія вынікі, дапамагчы канкрэтнай справай канкрэтнай бабулі. Нарэшце, прадэманстраваць пажылым людзям, што не ўсё грамадства ахоплена "астмай душы", што свет па-ранейшаму "круціцца"!

У тым жа Бярэзінскім раёне жыве дванаццаць з паловай тысяч пенсіянераў. 98 з іх пераступілі васьмідзесяцігадовую мяжу. І невядома, што з многімі з іх было б, калі б не работнікі райсабеса, сельскіх Саветаў, ды і проста чулыя людзі. На 9 мільёнаў рублёў закуплена капусты і морквы — для інвалідаў першай і другой груп, адзінокіх састарэлых, у якіх няма прысядзібных участкаў. Заказана на мясцовай швейнай фабрыцы цёплая бялізна для трыццаці чалавек. 177 дзядуляў і бабуль абагрэлі ў самым прамым сэнсе — дапамаглі з набыццём паліва.

Сёння ж пажылых бярэзінцаў запрашае да сябе раённы Дом культуры. На свята. З віншаваннямі, сувенірамі, канцэртам. Праўда, і тут хутчэй за ўсё не абыдзецца без праславутай лыжкі дзёгцю: нямногія пажылыя сяльчане змогуць дабрацца на свята, арганізаванае для іх, — не хапае аўтобусаў, бензіну.

440 адзінокіх бабуль і дзядуляў, што не ў стане пражыць без чужой дапамогі,— у Мядзельскім раёне. Яны таксама не застаюцца сам-насам з бядой. Уважліва ставяцца да сваіх пенсіянераў у калгасах "Бальшавік", "Будслаўскі". Тут прывіваюць міласэрнасць і дзецям. А вучні Пузыроўскай і Латвянскай школ прымаюць удзел ва ўборцы бульбы, дапамагаюць даставіць яе пажылым людзям.

Аказана сёлета на Мядзельшчыне дапамога 141 састарэламу і маламаёмнаму жыхару — на 7,5 мільёна рублёў. Адрамантаваны кватэры амаль у трыццаці вяскоўцаў. А гэта значыць, у старэнькай бабулі не выйдзе са строю печ, не давядзецца адзінокаму дзядулю панура стаяць над зламанай агароджай.

Знайшоўся ў раёне і спонсар. "Райсельэнерга" выдзеліла звыш 300 тысяч рублёў — на святкаванне Дня пажылых людзей.

Хочацца верыць, што па-добраму ставяцца да састарэлых людзей ва ўсіх нашых раёнах, гарадах і нават маленькіх вёсачках. Што з кожным днём усё больш будзе на Міншчыне тых, хто неабыякавы да праблем пажылых грамадзян. І ўсё менш — бабуль і дзядуляў, якім даводзіцца выціраць слёзы крыўды, болю і адчаю.

*Наталля ТУМАР.*

# А ЧТО ЕСЛИ ЗАНЯТЬСЯ СБОРОМ ВТОРСЫРЬЯ?..

*Во всяком случае, "семейная казна" слегка пополнится*

Не задумываясь, мы нередко выбрасываем в мусор ненужное старое тряпье, бумажные отходы, аэрозольные металлические баллончики, алюминиевую фольгу, металл, старую посуду, полиэтиленовые и другие отходы.

И то, что мы считаем мусором, оказывается ценным вторичным сырьем.

Использование вторичного сырья в промышленности имеет большое экономическое значение и помогает сберечь не только материальные ресурсы, но и позволяет более экономно использовать электроэнергию и топливо, уменьшает загрязнение вредными выбросами водоемов и атмосферы, снижает затраты на утилизацию отходов производства и потребления, сохраняет наши природные богатства.

Так, изготовление одной тонны бумаги и картона из макулатуры позволяет сохранить 4,5 куб.м древесины, около 200 куб.м воды, уменьшить расход электроэнергии до 1.000 кВт./час.

30 тонн макулатуры сохраняют от вырубки 1 га леса. Макулатура используется в производстве рубероида, толи, изоляционных плит, различных видов бумаги, картона и изделий из них.

Старая одежда, текстильные промышленные отходы также являются ценным сырьем. Одна тонна шерстяных и полушерстяных отходов — это 700 кг восстановленной шерсти, из которой можно изготовить ткани на 800 костюмов.

Из хлопчатобумажного и льняного тряпья вырабатываются высокосортные и специальные виды бумаги. Одна тонна такого сырья сохраняет для нужд народного хозяйства 3,5 куб.м деловой древесины.

А выплавка стали из черного металлолома стоит в 10 раз дешевле, чем из руды. Каждая тонна возвращенных к жизни отходов становится новым станком или автомобилем, трактором или комбайном.

Итак, у каждого из вас есть реальная возможность сдавать вторичное сырье заготовительным организациям потребкооперации.

В наше трудное время сбор вторичного сырья может также стать и дополнительным источником в вашем семейном бюджете.

К сведению: заготовкой вторичного сырья в области занимаются районные заготовительные организации — коопзаготпромы и потребительские общества, которые имеют сеть приемозаготовительных пунктов, принимающих от населения все виды вторичного сырья (лом черных и цветных металлов, тряпье, макулатуру, кость, изношенные покрышки и резиновые изделия, вторичный полиэтилен). Кроме того, его принимают и все сельские магазины. По вопросам заготовки вторичного сырья просим обращаться в районные коопзаготпромы по месту жительства.

А в городе Минске заготовкой вторичного сырья занимается Минское городское производственно-заготовительное объединение.

Вторичное сырье принимается у населения по ценам за 1 тонну:
— лом черных металлов — от 10 до 50 тысяч рублей;
— лом цветных металлов — от 90 до 165 тысяч рублей;
— тряпье хлопчатобумажное — 15, шерстяное, п/шерстяное — 25 тыс.руб.;
— макулатура — 40 тысяч руб., кость, изношенная резина, вторичный полиэтилен — по 10 тысяч рублей.

К сведению школ города Минска: за сданную макулатуру вы можете приобрести в МГПЗО "Минсккоопвторресурсы" ручки шариковые, тетради ученические, общие, п/общие, фломастеры.

По всем интересующим вас вопросам просим обращаться по телефонам: 64-77-87, 45-10-05, 56-39-13.

*Управление заготовок Минского облпотребсоюза.*

